# ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

IX

Газэты падаюць вестку, што Ватыкан і Чэхалавацкі ўрад наладзілі адносіны. У чым тут справа? Вось і хочацца пагаварыць аб гэтым з чытачамі „Сял. Нівы", адарваўшы іх на момант ад рознае перадвыбарчае пісаніны.

Не сумліваемся, што шмат хто з чытачоў ня ведае яшчэ, што такое Ватыкан і якое ён мае значэньне ў жыцьці чалавецтва. Калі мала хто ведае аб Ватыкане, дык затое пэўна, амаль-што кожны знае, што ёсьць на сьвеце рымскі папа. Дык цяпер ужо будзе лягчэй вытлумачыць самую сутнасьць. А знача? — Ватыкан, гэта — месца дзе жыве рымскі папа і яго канцэлярыя. Знаходзіцца гэта ў Рыме, у Італіі. Ватыкан займае частку места Рыму.

Рымскі папа, як ведама, зьяўляецца галоўным кіраўніком усяго каталічаства, якое толькі дзе ёсьць на сьвеце. А на сьвеце ёсьць каталікоў 320 мільёнаў. Але-ж яны параскіданы па ўсяму зямному прастору, творачы або паасобныя дзяржавы паводле нацыянальнай прыналежнасьці, або жывуць сярод народаў іншых рэлігіяў.

Мы ня будзем гаварыць аб канонічным, ды нават дагматычным палажэньні рымскага папы, мы адзначым толькі яго ролю ў палітыцы.

Быў такі час, калі рымскаму папе былі падпарадкаванымі ўсе цары, каралі, правіцелі, якія належалі да каталічаства. Рымскі папа зьяўляўся фактычным кіраўніком усіх каталіцкіх дзяржаваў. Усе правіцелі лічыліся з воляю папы. Але-ж мала-па-малу папская ўлада слабела, бо паміж правіцелямі знаходзіліся такія, якія не хацелі слухаць папы. І гэтакім парадкам дайшло да таго, што рымскі папа астаўся ўласьціцелем толькі аднэй рымскай губэрніі.

Італія была тагды падзелена на многа самастойных невялічкіх дзяржаваў, дык папа над сваею рымскаю губэрніяй зьяўляўся — царком, г. зн. ня толькі духоўнікам, але-ж і адміністратарам. Папа меў сваю паліцыю і войска. Але пасля, калі Італія злучы ася, дык італьянскі кароль захапіў папскую губэрнію і пазбавіў папу панаваньня над яго губэрніяй, пакінуўшы папе толькі той квартал места Рыму, дзе месьціцца яго палац — Ватыкан. За тое (а гэта было ўжо нешта болей як 60 гадоў) папа гневаецца на італьянскі ўрад і ня мае з нім ніякіх зносінаў.

Страціўшы ўладу над сьвецкімі ці цывільнымі ўладамі і правіцелямі дзяржаваў і народаў, рымскі папа утрымаў сваю ўладу над касьцельнымі князямі над духавенствам.

Дык вось якое стварылася палажэньне: духоўнікі з аднаго боку зьяўляюцца паслухмянымі рыскаму папе, а з другога мусяць тасавацца да законаў тэй дзяржавы, у якой жывуць. Ясна, што пры гэтакім палажэньні ім прыходзілася часта мець канфлікты з апошнімі. Дык вось, у выніку ўсяго гэтага, некаторыя ўрады, каб урэгуляваць касьцельную справу ствараюць з папай дагаворы, якімі разьдзяляюць панаваньне над духавенствам. — Гэтыя дагаворы называюцца — конкордатамі: яны то і рэгулююць панаваньне дзьвёх уладаў над каталіцкім духавенствам.

Гэтакая гармонія панаваньня часад-часу нарушаецца, з прычыны якога-колечы непаразуменьня.

Два гады таму назад, дзякуючы аднаму непаразуменьню, паўстаў канфлікт паміж Ватыканам і чэхаславацкім урадам.

Прычына гэтаму была гэтакая:

Некалькі стагодзьдзяў таму назад, у Чэхіі жыў Ян Гус, які будучы, каталіцкім духоўнікам, вышаў з-пад улады рымскага папы. За гэта Яна Гуса жыўцом спалілі. І вось цяпер, калі Чэхаславакія стала вольнаю і незалежнаю, Чэхаславацкі Народ успомніў свайго мучаніка і той дзень, у які спаліла духоўная ўлада Яна Гуса, Чэхі ўрачыста сьвяткавалі. Але-ж гэта не падабалася рымскаму папе, які загневаўся на чэхаславацкі ўрад і з-за гэтага парваліся зносіны паміж папаю і Чэхаславакіяй.

У такім выпадку нарушаная гармонія панаваньня над духавенствам дрэнна адбівалася на дзяржаўных справах, а таксама былі замешкі і рымскаму папе ў кіраўніцтве каталіцкім духавенствам у Чэхаславакіі. Вось чаму павінны былі — Чэхаславакія і Ватыкан зьлеквідаваць канфлікт і ўрэгуляваць адносіны паміж сабою. Так што цяпер справа ўладжана. Ну, дык мо' і добра!...

Пакідаючы гэтае „дабро", пяройдзем да справы француска-нямецкіх адносінаў.

Пасьля вайны, налажыўшы на Нямеччыну вялікую кантрыбуцыю (даніну) і вымагаючы ад яе яшчэ шмат — чаго, Францыя, як-бы ў залог за бязумоўнае выкананьне Нямеччынай наложаных на яе абавязкаў, захапіла і трымае частку нямецкай зямлі — Рэйнскую вобласьць.

Гэта ўсё вельмі не падабаецца Немцам, але-ж направіць справу яны ніяк ня могуць. Час-ад-часу, яны напамінаюць Францыі, што трэба, каб Францыя пазбылася ролі жандарма над Нямеччынай. Францыя-ж сяк так усьцяж адмахваецца, трымаючы Рэйнскую вобласьць, багатую каменным вуглем, у сваіх мілітарных шпонах.

Цяпер, толькі што на адбытых паседжаньнях нямецкага рэйстагу (сойму) і францускага сэнату, нямецкі міністар Штрэзэман і францускі — Брыян, даючы справаздачу аб замежнай палітыцы і працы, паміж іншым, абодва гаварылі аб Рэйнскай вобласьці. З гэтых прамоваў — прамова Брыяна заслугоўвае асаблівае ўвагі, бо яна запраўды зьяўляецца вельмі характэрнаю.

У сваей прамове Брыян успамянуў і пераказаў тую гутарку, якую ён меў з нямецкім міністрам Штрэзэманам пры спаткані ў Туары (маленькае францускае мястэчка). Тагды, — говора Брыян, — я сказаў Штрэзэману: „Вы дамагаецеся бястэрміновае эвакуацыі (звальненьні ад акупацыі — захопу) Рэйнскай вобласьці. У такім выпадку вы павінны правясьці поўнае разаружэньне і знайсьці сродкі, каб таксама раней вызначаннага тэрміну заплаціць даніну".

Вось гэта, дык характэрна. Францыя дамагаецца, каб Нямеччына разаружылася, але-ж ці Францыя разаружаецца? Наколькі ведама, дык Францыя разаружаючы Нялеччыну, ува імя спакою, астаючыся ўваружанаю сама, ці-ж ня выяўляе гэтым самым забаўку ў салдацікі!

І, калі францускі міністар гаворыць, пры гэтым, аб спакоі, дык чытаючы яго словы, нам здаюцца яны—пустагукамі. У гэтым мы ня мыляемся.

Абгаварыўшы дзьве справы сусьветнай палітыкі, канчаем наш агляд вокам па сьвеце і жадаем, каб ізноў хутчэй пагаварыць аб нейчым іншым. І калі газэта здаровенькаю дойдзе да вас—чытачы, дык хутка ізноў спаткаемся.

**Зыркі.**

---

За фабрыкі для работнікаў—галасуйце за нумар 18.

За салідарнасьць беларускіх працоўных масаў—сялян і работнікаў—галасуйце за нумар 18.

За салідарнае змаганьне за правы і інтарэсы беларускіх працоўных масаў—галасуйце за нумар 18.

---

# НАВІНЫ.

— **Канфіската „Беларускай Крыніцы".** Па загаду камісара ўраду на м. Вільню канфіскаваны № 9 газэты „Беларуская Крыніца" за артыкул „Голас з вёскі" і заметку „Зьдзекі адміністрацыі".

— **Спэктакль вечарына.** У нядзелю, 5-га лютага, у салі Т-ва Беларускае Школы адбыўся спэктакль-вечарына, ладжаны Беларускім Студэнскім Саюзам. Адыграна была п'еса „Цені", твор Фр. Аляхновіча.

Бралі ўдзел у ігры артысты: Залкінд, Туркевічанка, Маскалік, Лобан і Амельяновіч.

— **Спэктакль на вёсцы.** Шутавіцкі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры 5 г. лютага ладзіў прадстаўленьне. Адыграна была п'еска „Зьбянтэжаны Саўка".

Пасьля прадстаўленьня адбыліся дэклямацыі і пяяліся песьні.

— **А конскі фэльчар трыумфуе.** Падаючы вестку аб арыштце і звальненьні пад залог б. пасла Рагулі паўлюкевічаўскае „Беларускае Слова" піша: „Умелі прамаўляць, умейце і атказ трымаць". Але, умеем трымаць і будзем трымаць, але-ж астанемся з Народам, ня гэтак, як пан конскі фэльчар, што прамяняў Беларусь на талерку казённай сьмятанкі.

— **А Расейцы „працуюць"!...** Прафэсар варшаўскага факультэту Н. С. Арсеньнеў, у салі гандлёва-прамысловага клюбу, у нядзелю 12 г. лютага прачытае лекцыю на тэму „Рэлігійныя асновы праваслаўнага народу". Відаць, што хочуць узяць ня „мытьем", дык „катаньнем"!... Калі ня руска-людзтвам, дык руска-верствам!

# Што дзеецца ў сьвеце?

## Пратэсты за Бэсараб'ю ў СССР.

Як ведама частка Бэсараб'і пасьля ўсясьветнае вайны падпала пад Румынскую акупацыю. І вось у 10 угодкі гэтай акупацыі, у Маскве і другіх савецкіх местах ладзіліся мітынгі, на якіх вынасіліся рэзалюцыі аб неабходнасьці асвабаджэньня Бесараб'і ад улады Румынаў. У месьце Бальце, сталіцы аўтаномнай савецкай Малдаванскай рэспублікі, на мітынгу прысутныя трэбавалі далучэньня да савецкай Малдавіі тэй часткі Бэсараб'і, якая знаходзіцца цяпер пад уладаю Румыніі.

## Бандытызм у Чыкаго.

Апошнімі днямі ў Чыкаго здарыліся 4 сьмелыя рабункі. У вадным з найвялікшых банкаў сярод белага дня бандыты зрабавалі 40 тысячаў даляраў. Амаль адначасна дакананы напад на краму злотніка, пры чым зрабавана зал. рэчаў на 30 тысячаў даляраў. У ночы банда грабежнікаў напала на адну маладую кабету і зрабавала ў яе брыльлянты, якія каштавалі 7 тысячаў даляраў. Але ўсе гэтыя рабункі перавысіў рабунак прамысловага банку, у якім чатырох бандытаў стэрарызаваўшы касіера, забралі каштоўнасьці на 90,000 даляраў.

## Чэха-Славакія пагадзілася з Ватыканам.

Рымскі Папа і Чэхаславацкі ўрад 2 гады калаціліся між сабою і ня мелі ніякіх зносінаў адзін з другім. У сталіцы Чэха-Славакіі, Празе, ня было нават папскага прадстаўніка. Толькі нядаўна злосьнікі пагадзіліся і ўладзілі „кафлікт". На гэтых днях Чэха-Славацкі ўрад апублікаваў дагавор з Рымскім Папаю, які рэгулюе граніцы епархіяў, палажаньне манахаў і рэлігійных грамадаў, а галоўнае, назначэньне чэха-славацкіх япіскапаў. Цяпер Чэха-Славацкі ўрад падае Папе сьпісак кандыдатаў на япіскапы, Папа з іх выбірае і назначае, пры чым япіскапы прыносяць прысягу Чэха-Слав. канстытуцыі. Далей Папа прызнаў, што чэская нацыя можа дастойным чынам сьвяткаваць памяць свайго рэлігійнага рэфарматара Гуса, але каб сьвяткаваньне гэтае не абражала рэлігійнага пачуцьця каталікоў.

## РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— 1 лютага пашоў у адстаўку Юга-Славянскі габінэт. Прычына—выхад усіх міністраў-дэмакратаў са складу габінэту. У некаторых месцах Белграду вынiклі вэружаныя сутычкі паміж палітычнымі праціўнікамі.

— У месцы Фальрывэр (Амэрыка) здарыўся вялікі пажар, які цягнуўся 15 гадзін. Між іншым згарэла 6 банкаў, тры гатэлі, тры рэдакцыі, 2 тэатры. У вагні згінула 5 пажарных. Страты дасягаюць 12 мільёнаў даляраў.

— Каля места Гвадаляра (Мэксыка) надовячы адбыўся бой паўстанцаў з урадавымі войскамі. Паўстанцы страцілі 45 чалавек забітымі.

— Савецкі Ўрад маніцца зьнясьці ў Маскае адзінаццаць цэркваў, якія, нібыта мяшаюць вулічнаму руху.

— 3 лютага пашоў у атстаўку грэчаскі габінэт. Прычына — розныя пагляды сяброў габінэту на ўдзяленьне канцэсыі ангельска-амэрыканскаму таварыству на публічныя работы.

---

За Беларусь для Беларусаў—галасуйце за нумар 18.

За сялянска-работніцкую ўладу—галасуйце за нумар 18.

За поўную роўнасьць жанчыны ў грамадзкім жыцьці—галасуйце за нумар 18.

---

## Нашым карэспандэнтам.

З прычыны вельмі частых канфіскатаў „Сял. Нівы" мы ў вялікай масе не маглі скарыстаць з тых карэспандэнцыяў, якія за гэты час Рэдакцыя атрымала. Аднак-жа ўсе тыя карэспандэнцыі, якія з прычыны канфіскатаў залежаліся і калі не ўстарэюць (не страцяць цераз гэта вартасьці), будуць па магчымасьці зьмешчаны.

---

**Грамадзяне Беларусы! Галасуйце за сьпісак № 18**

---

**18** **Выбаршчыкі-Беларусы, гэта адзіны сьпісак кандыдатаў у Сойм і Сэнат. 4 і 11 сакавіка, усе як адзін, ідзеце да абвадовых урнаў і аддаайце за гэты сьпісак свой голас.**

---

# Бел. Пасольскі Клюб

## і яго праца ў Сойме і Сэнаце ў 1922—1927 г.

(Працяг).

Яны патрэбны нам гэтыя вышэйшыя ідэалы, бо яны кіруюць усім нашым жыцьцём, неяк асьвятляюць яго і *умацняюць* сваім высокім сэнсам *усю нашу дзеяльнасьць і працу*. Не дарма Немцы гавораць: „мут фэрлёрэн—аллес фэрлёрэн", г. ёсьць „калі страціў дух, — усё страціў". А калі Царква, я сказаў, гэта ёсьць кузьня для выковываньня вышэйшых падставаў нашага жыцьця, *кіруючых нашым жыцьцём*, то ясна, што яна павінна быць незалежна ад дзяржавы.

Урады Польшчы, наадварот, заўсёды імкнуліся падпарадкаваць Царкву і яе прадстаўнікоў, духавенства, сваім палітычным мэтам. Адзін такі „ужэнднік" з міністэрства асьветы пад час маей інтэрвэнцыі ў царкоўнай справе так і сказаў: „nam mało tego, żeby duchowieństwo prawosławne było lojalnym wobec panstwa; nam trzeba, żeby oni byli *ajentami państwowymi*".

Вось з гэтымі імкненьнямі ураду нам, і перадусім мне, і прыходзілася вясьці барацьбу, — барацьбу за тое, каб нашы духоўныя былі не „państwowymi ajentami, а выключна „*ajentami Cbrystusowymi*".

Не магу тут не адзначыць таго, што калі мы ў гэтай барацьбе дужа пацярпелі шкоды, то вінават у гэтым не адзін толькі польскі жонд (жонд ведама шукае таго, што уважае за патрэбнае *для панства*), але яшчэ больш вінаваты тыя з духоўных, хто за „чэчэвічную пахлёбку" прадалі гэтую свабоду Царквы.

Першым вінаваты ў гэтай здрадзе царкоўнаму дзелу нябошчык мітр. Георгій, якога пасьля (нябывалая справа ў царкоўным жыцьці!) забіў, як вы чулі архімандрыт Смарагд. Няхай першаму Бог даруе яго грэх здрады, як і другому грэх яго забойства за тую муку, якую ён перажыў, бачачы як прадаецца царкоўнаная свабода!

Каб гэта ясна было ў чым тут справа,—вось невялічкі прыкладзік: Прыяжджае да мяне ў сэнат дэлегацыя ад сялян аднэй парахвіі гарадзенскай эпархіі. Просяць бараніць іх, бо ў іх зачынілі іхны прыход. Ідзём разам з імі ў міністэрства. Пытаемся. А там разьясьняюць, што на зачыненьне гэтай парахвіі згадзіўся сам архіерэй — вось і подпіс яго пад згодай.—Як так? А чаго-ж не запыталіся гэтага ў парахвіян?—„A co oni wiedzą ci parafijanie? Oni sami nie wiedzą, co im potrzebne". Я пачынаю даказываць, што там парахвія быць павінна, што гэта далёка ад іншых парафіяў і гэдак далей.—Co pan mnie mówi. Czy pan Bohdanowicz więcej wie, niż sam biskup, który *od Boga postawiony*" (калі-ж бы ад Бога, а то ад сьвецкай улады!). Вось і ўся справа. Калі-б бараніў справу архіерэй, — гэта было-б надужыцьцем і можна было-б бараніць яе і ў Сойме. А так... надужыцьця няма. Наадварот: „згода" і ўсё у парадку!

Падпарадкаваўшыся самі ўладзе сьвецкай, вышэйшая іерархія падпарадкавала ей і ніжэйшае духавенства. Бесперастанным страхам перад уладай сьвецкай, яна давяла гэтае духавенства да таго, што змусіла яго і парахвіянамі кіраваць ледзьве ня пры помачы паліцыянта. Так выходзе патроху з царкоўнага жыцьця яго хрысьціянскі царкоўны дух, а гэта адхіляе народ ад царквы, бо ён не знаходзіць там таго, чаго шукае.

Мы тут, наадварот, імкнемся, каб царкву зрабіць справай усенароднай, каб кожны адчуваў царкоўную справу *сваей* і працаваў у яе справах, як у *родных*, сваіх з усею шчырасьцю, сьвядомасьцю і сумленьнем.

Не магу тут не адзначыць таго, што гэтыя царкоўныя справы шчыра баранілі у Сойме паслы ня толькі праваслаўныя, а так сама і каталікі.

(Канчатак будзе).

---

**Сяляне-Беларусы! Памятайце, што сьпісак, за каторы вы павінны галасаваць на выбарах у Сойм і Сэнат мае**

**№ 18**

